Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№76(589) 24 красавіка 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618667 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**В ходе поездки на Брестчину премьер-министр Беларуси Вячеслав Кебич встретился в Ивановском районе со своими избирателями.**

В дальнейшей программе пребывания премьер-министра — посещение ряда районов, знакомство с ходом полевых работ, встречи с коллективами промышленных предприятий Пинска и областного центра.

❑

**Представители германской фирмы "Сименс" совместно с белорусскими железнодорожниками провели скоростные испытания подвижного состава, который используется на Белорусской железной дороге.**

Специалисты ЕЭС начали разработку проекта европейской "узкоколейки", которая свяжет Париж с Москвой через Берлин, Брест и Минск.

❑

**Председатель правления Национального банка Республики Беларусь Станислав Богданкевич, выступая на пленарном заседании международного банковского конгресса в Санкт-Петербурге, призвал к созданию наднационального банка СНГ, а также таможенного и валютного союзов.**

В то же время он отверг возможность передачи функций центрального банковского органа СНГ Центральному банку России.

❑

**Вчера в Минск прибыли первые волонтеры американской благотворительной организации "Сити хоуп интернешнл".**

Так в Беларуси началась вторая по счету крупномасштабная акция "Надежда -экспресс-2" по доставке в республику большого гуманитарного груза.

❑

**Президент Российской Федерации Борис Ельцин "готовит Конституцию, которая предусматривает президентское правление".**

"Но Конституция должна быть принята как полагается", — заявил он в аэропорту Внуково по прибытии из Ижевска. Тем самым он опроверг слухи о якобы готовящихся на 26 апреля каких-то решительных мерах.

❑

**В Вашингтоне состоялась торжественная церемония открытия нового здания посольства Беларуси в США.**

Многочисленных гостей приветствовали находившийся в США с визитом министр иностранных дел Беларуси Петр Кравченко и временный поверенный Беларуси в США Сергей Мартынов.

### Борис нам друг, но пенсия дороже

**На простой и действенный способ агитации накануне референдума пошли на сталепрокатном заводе Санкт-Петербурга.**

Бывшие работники предприятия перед тем, как получить выплачиваемую заводом добавку к пенсии — восемьсот рублей, получают перед окошком кассы образец бюллетеня, где "да" президенту зачеркнуто. Отвергающий образец рискует остаться без денег.

**Михаил КАРЧИК.**

### Ох уж эти визы!

**С 12 мая вводится визовой порядок въезда граждан Латвии и Эстонии на территорию Российской Федерации до возможного заключения двусторонних соглашений о взаимных поездках граждан.**

До 6 февраля 1995 года сохраняется безвизовый въезд в Россию граждан бывшего СССР, постоянно проживающих в Латвии и Эстонии и не получивших гражданства этих государств.



Рисунок Олега ПОПОВА.

### Спорт-экспресс

В итальянском городе Прато закончился второй отборочный этап Кубка Европы по художественной гимнастике.

Лидер белорусской команды Лариса Лукьяненко заняла первое место в многоборье, у Татьяны Огризко — третья позиция.

❑

Футболисты московского "Спартака", встретившиеся в полуфинале европейского Кубка кубков с бельгийским "Антверпеном" на его поле, неожиданно проиграли — 1:3 и выбыли из дальнейшей борьбы. Соперником бельгийского клуба будет итальянская "Парма". Таким образом, во всех трех финалах европейских кубков будут участвовать итальянские клубы.

❑

Итоги 16-го тиража "Спортпрогноз" (16—18 апреля).

Допущено: 756 927 вариантов.

Угадано: 13 исходов — 6 — по 122 369 руб., 12 исходов — 326 — по 850 руб., 11 исходов — 3 507 — по 235 руб.

Выплата выигрышей — с 8 мая по 8 июня 1993 года.

### Погода и здоровье

**24 апреля погода в Минске и области существенно не изменится. Содержание кислорода в воздухе ниже средних многолетних данных.**

Сегодня маловероятно ухудшение самочувствия метеозависимых больных. Но к концу дня могут почувствовать себя плохо сердечники с опережающей реакцией на неблагоприятный день (25 апреля). Им следует регулярно принимать лекарства, назначенные врачом, не забывать об успокаивающих средствах (настойках валерианы, пустырника).

**Антонина КАРОЗА,**
**научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

### Неплохие вести из-за океана

**Министр иностранных дел Беларуси Петр Кравченко завершил официальный визит в американскую столицу и вылетел в Нью-Йорк.**

Одним из основных итогов визита стало заявление американской стороны о предоставлении Беларуси 65 млн. долларов для содействия демонтажу ядерных вооружений, находящихся на ее территории. Кроме того, были представлены конкретные предложения об оказании помощи экономическим преобразованиям в республике.

**Александр КОРОЛЕВ.**

### Голодают не только в Сомали

**Более сотни участников ликвидации аварии на Чернобыльской АЭС, находящихся сейчас на лечении в харьковских больницах, объявили голодовку.**

Собравшись в актовом зале городской больницы, они направили на имя Председателя Верховного Совета Украины Ивана Плюща телеграмму с требованием о прекращении "преступной политики свертывания закона Украины "О статусе и социальной защите граждан, пострадавших вследствие чернобыльской катастрофы".

**Леонид ЗАМЯТИН.**

### "Динамо" — это состояние души...

**Сегодня в Минске пройдут торжества в честь 70-летия общества "Динамо".**

Состоится возложение венков на площади Победы, после чего в здании Дома культуры имени Ф.Держинского пройдет торжественное собрание, посвященное знаменательному событию.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

### Вспомним всех поименно?

**Гомельские союз прав человека и союз безработных проводят 26 апреля шествие и митинг, посвященные 7-й годовщине чернобыльской трагедии.**

Им будет предшествовать утренняя служба в соборе Петра и Павла за здравие детей и взрослых, живущих на пораженной радиацией земле. От собора и двинется процессия. По словам организаторов, демонстранты понесут чучела — изображения некоторых бывших руководителей области и республики, скрывших в 1986 году правду о Чернобыле.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Из пламя разгорелись страсти

**В США разгораются дебаты по поводу ответственности за гибель членов религиозной секты в Техасе.**

Власти возлагают всю ответственность за этот трагический инцидент на 33-летнего предводителя секты Дэвида Кореша, утверждая, что сектанты сами подожгли свою "обитель". Однако далеко не все в Соединенных Штатах разделяют это мнение.

**Сергей КУЗНЕЦОВ.**

### Парад талантов принимает Мозырь

**Вчера в Мозыре открылся трехдневный республиканский фестиваль самодеятельных театральных коллективов.**

Он посвящен памяти Андрея Макаёнка и ставит своей целью возрождение белорусской национальной культуры, традиций и обычаев.

**Анатолий ИВАНОВ.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*Дабрачыннасць*

## Нашым дзецям ужо не давядзецца ехаць для аперацыі за мяжу

Юта Шноор — багатая жанчына і жонка міністра ўнутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, магла б весці спакойнае свецкае жыццё. Але, наведаўшы разам з мужам два гады назад Беларусь і дзіцячыя бальніцы, яна зусім страціла спакой. Герберт Шноор не толькі не пазнаваў Юту, але і часта не заставаў яе дома да глыбокага вечара. Яна пісала слёзныя пісьмы і пасылала іх ва ўсе канторы, прадпрымальнікам і дырэктарам буйных фірм з просьбай дапамагчы беларускім дзецям. Першая інстанцыя, куды звярнулася з просьбай, быў вядомы завод "Фольксваген". Менавіта ён у гады вайны эксплуатаваў палонных і прыгнаных на работы ў Германію, сярод якіх было шмат беларусаў. З гэтай казырнай картай і пайшла Юта Шноор да рабочых. Вынік — амаль што два мільёны марак на рэканструкцыю дзіцячай клінікі ў Мінску. Усяго ж было сабрана чатыры з паловай мільёны, якія дазволілі стварыць замкнёны тэрапеўтычны ланцужок ад транспарціроўкі аслабленых і хворых дзяцей у цэнтр да самых складаных аперацый і аддзялення выходжвання малалетніх пацыентаў пасля аператыўнага ўмяшання. Першая клінічная бальніца атрымала тры цудоўныя аперацыйныя залы, якіх пакуль што няма нідзе ў краіне. Цяпер нямецкія калегі будуць вучыць беларускіх хірургаў і вучыцца ў іх.

Аб усім гэтым гаварылася на сустрэчы нямецкіх гасцей у Вярхоўным Савеце рэспублікі. Мужа і жонку Шноор і нямецкіх журналістаў прыняў Станіслаў Шушкевіч.

❑ Станіслаў Шушкевіч у час агляду аперацыйнай залы клінікі.

Фота Сяргея ГРЫЦА.

### Шаноўныя чытачы!

## Нам з вамі зноў "перакрываюць кіспарод"

**На жаль, гэта становіцца ўжо сумнай традыцыяй: калі выхадныя збягаюцца з чарговым святам, рэдакцыя мусіць паведамляць чытачам, што некалькі дзён газету яны не ўбачаць.**

**Так і цяпер — наступны нумар нашага выдання, як, дарэчы, і іншых, будзе датаваны толькі 29-м красавіка. Паверце: справа зусім не ў тым, што газетчыкі, як гаворыцца, таксама людзі і хочуць трохі адпачыць. Мы гатовы былі б перагледзець рэжым сваёй працы так, каб чытач не сядзеў па 3—4 дні ў інфармацыйным вакууме.**

**Заўважым, у шматразова аблаяныя "застойныя" часы такой бязглуздзіцы не дазвалялі — хай сабе і за кошт нямодных зараз адміністрацыйных захадаў аддзела прапаганды ЦК КПБ. Ну, а цяпер жа ўсе самі сабе гаспадары — і паліграфісты, і сувязісты, і Белсаюздрук... Гуляюць усе — гуляюць і яны. Альбо заломліваюць за свае паслугі ў выхадны ці святочны дзень такую шалёную цану, што рэдактары ледзь з крэслаў не валяцца...**

**Мы, вядома, не заклікаем вяртацца ў эпоху голага адміністравання, але ж ці не дыскрэдытуе саму ідэю рыначных адносін вось гэта абсурдная, дзікунская з'ява, калі напрыканцы XX стагоддзя насельніцтва цэлай еўрапейскай краіны на паўтыдня пазбаўляецца свежай прэсы? Можа, тут той самы выпадак, калі нашай высокай выканаўчай уладзе (якая ў іншых сітуацыях праяўляе зайздросны імпэт у справе рэгламентацыі дзейнасці прэсы!) варта прадэманстраваць канкрэтны клопат пра інтарэсы народа і неяк дапамагчы вырашыць "невырашальнае" пытанне?**

**Будзем спадзявацца, што ў Савеце Міністраў рэспублікі нас пачуюць. Ну, а пакуль што — выбачайце, калі ласка, і да сустрэчы 29 красавіка.**

**Рэдакцыя "Народнай газеты".**

*Ці чулі?*

### Лес з касеты

**Вучоныя і леснікі-практыкі Беларусі і Украіны сталі сведкамі нараджэння новай лесапасадачнай машыны, першыя выпрабаванні якой паспяхова прайшлі на радыеактыўных плошчах Веткаўскага раёна.**

Навінка распрацавана супрацоўнікамі Інстытута лесу Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. На сеялцы ў счэпе з трактарам "Беларусь" устаноўлены дзве спецыяльныя стужкі-касеты з саджанцамі. Адной запраўкі хапае на паўгектара плошчы. Прысутнасці людзей, неабходнай на ранейшых лесапасадачных машынах, цяпер не патрабуецца. А трактарыста надзейна засцерагае ад радыеактыўнага пылу кабіна.

**Віктар КОТАЎ,**
**Белінфарм.**

г.Гомель.

*Беларусь — Польшча*

## Ці стане Буг граніцай двух блокаў?

**У ходзе візіту міністра нацыянальнай абароны Рэспублікі Польшча Януша Анышкевіча ў Беларусь падпісана беларуска-польскае пагадненне аб ваенным супрацоўніцтве. Аб гэтым было паведамлена на прэс-канферэнцыі па выніках візіту.**

Журналістаў, зразумела, больш за ўсё цікавіла рэакцыя Варшавы на больш чым верагоднае далучэнне Беларусі да сістэмы калектыўнай бяспекі ў рамках СНД. Ці зменіцца ў гэтым выпадку ваенная дактрына Польшчы? Пан Анышкевіч адказваў дастаткова дыпламатычна. Двухбаковыя адносіны, зазначыў ён, залежаць толькі ад добрай волі абедзвюх дзяржаў.

Крыху больш падрабязна Януш Анышкевіч спыніўся на прайшоўшых нядаўна вучэннях Варшаўскай ваеннай акругі, якая непасрэдна прымыкае да заходніх абласцей Беларусі. Занепакоенасць, выказаная па гэтай прычыне ў беларускай прэсе, неабгрунтаваная, запэўніў польскі палітык. Польшча не збіраецца разгортваць дадатковыя войскі на межах з Беларуссю. Будзе ажыццяўляцца толькі некаторая перадыслакацыя, таму што Польшча, як нашчадак Варшаўскага Дагавора, мае неапраўдана высокую канцэнтрацыю войск на сваіх заходніх граніцах.

Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі таксама выказаў задаволенасць тым, як развіваецца ваеннае супрацоўніцтва. На яго думку, яму не пашкодзіць нават такое развіццё падзей, пры якім нашы краіны будуць належаць да розных абарончых саюзаў (як вядома, Польшча ўжо вырашыла стаць у перспектыве членам НАТО). Нішто не выключае стварэння ў далейшым агульнаеўрапейскай сістэмы бяспекі, лічыць Павел Казлоўскі.

**Ігар ФІЛІПЕНКА.**

*Факт і каментарый*

## Рана трубіць

**Мікалай ГАЛКО**

Хоцімск — не толькі геаграфічная, але і палітычная глыбінка. І калі б не ўдзел старшыні Сялянскай партыі Яўгена Лугіна ў выбарах за права прадстаўляць раён у Вярхоўным Савеце, які ўнёс у барацьбу струмень свежых ідэй, то няма сумнення, што падзея прайшла б непрыкметна, па загадзя распрацаванаму сцэнарыю.

Выбары ў Хоцімскім раёне ўжо адбыліся. Адна з газет ва ўласцівай ёй танальнасці паспяшалася пратрубіць перамогу кандыдата ад Саюза аграрнікаў, якую "надо расценивать как растущее доверие к молодой общественно-политической организации, которая твердо стоит на позициях защиты экономических интересов крестьянства и чувствует с его стороны все большую поддержку".

У межы нашай кампетэнцыі не ўваходзіць выказваць сумненне ў перамозе старшыні калгаса "Октябрь", і старшыні райаграсаюза Уладзіміра Пагуляева, які набраў крыху больш паловы галасоў. Яго прыхільнікі могуць адмахнуцца ад каментарыя Яўгена Лугіна, маўляў, што яго слухаць, ён жа прайграў. Але выслухаць трэба. "Адбылася фальсіфікацыя выбараў, — сказаў Лугін. — Пасля абеду члены камісій паехалі па хатах з вынаснымі урнамі, а там ужо свабоднага волевыяўлення не было. Маіх прыхільнікаў прыцiскалі. Аднаго галоўнага заатэхніка нават звольнілі з працы, двух шафёраў пераявлі ў трактарысты, работніцы ветлабараторыі зрэзалі аклад..."

Зразумела, што гэтыя факты я не магу ні пацвердзіць, ні абвергнуць. Але тое, што за Лугіна ў Хоцімскім раёне аддалі галасы 1890 чалавек, гаворыць пра тое, што да Сялянскай партыі паставіліся з сімпатыяй (гэта 17,9 працэнтаў галасоў).

Трэцім кандыдатам, у адрозненне ад Лугіна, чалавека са сталіцы, быў свой, мясцовы, намеснік старшыні калгаса Леанід Саўчанка. Пра яго цяжка сказаць, што ён плёў нейкія партыйныя інтрыгі.

Тым не менш ён і яго паплечнікі перакананы, што падчас выбараў адбылася фальсіфікацыя, у тым ліку і з бюлетэнямі. Старшыня калгаса "Прагрэс" Уладзімір Канавалаў паслаў спачатку тэлеграму, а потым ліст пратэсту ў Цэнтральную выбарчую камісію.

Сакратар камісіі Іван Ліхач паведаміў, што ліст і тэлеграма накіраваны нядаўна хоцімскаму пракурору. Пра канчатковыя вынікі выбараў гаварыць рана.

*Из жизни денег*

### Обладатели долларов будут выбирать между "А" и "Б"

**Новый порядок оформления валютных счетов, утвержденный недавно, должен сделать более привлекательным для жителей Беларуси хранение валюты в банке, а не "в чулке".**

Вводятся два вида валютных счетов — типа "А" и типа "Б". На счета типа "А" зачисляется валюта, легальное происхождение которой подтверждается документально (перевод из-за границы, таможенная декларация при ввозе и т.д.). Распоряжаться средствами со счета типа "А" можно неограниченно, вплоть до перевода в зарубежный банк.

Счета типа "Б" придется открывать тем, кто не желает раскрывать источник заработанной валюты. Средства со счета типа "Б" можно использовать только в пределах Беларуси.

Проценты по валютным счетам будут устанавливаться в каждом банке самостоятельно.

**Игорь АЛЕКСАНДРОВ.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Бизнес в лицах*

## Николай БОРИСОВ:

# “Я приближаю завтрашний день...”

**Петр ГРИГОРЬЕВ, фото Сергея ПЛЫТКЕВИЧА**

Чтобы вы имели хоть какое-то представление о Николае Борисове, должен высказать несколько фрагментарных впечатлений: молод, одет всегда изысканно, говорит медленно, но образно и точно. Пишет стихи. Последнее обстоятельство особенно впечатляет, потому что очень уж не вяжется с расхожим представлением о нынешних бизнесменах, людях по преимуществу жестких и прагматичных. Впрочем, Борисов личность тоже далеко не сентиментальная, умеющий, когда нужно, проявить волю, об этом знают все, кому приходится иметь с ним дело, но ко всему этому пишет лирические стихи...

Вот такие штрихи к портрету.

Впервые узнал я о нем из сообщений "Народной газеты", что в Минске появился интереснейший лектор, который рассказывает поразительно умные вещи о практике маркетинга и менеджмента, может в нескольких словах "осветить" сложнейший вопрос насущной налоговой практики в наших условиях и вообще зачаровывает аудиторию. К слову говоря, сегодня можно встретить немало "популяризаторов", всего лишь пересказывающих своими словами книги Дейла Карнеги. Побывавшие на лекциях Борисова серьезные люди, известные в мире предпринимательства, которые давно уже успели позабыть азы теории, уверяли, что давно не слыхали такого образного, интересного, а главное — полезного слова. При этом показывали блокноты, испещренные полученной на лекциях информацией. Это впечатляло! Оригинально и то, что многочасовые эти лекции были, оказывается, бесплатными. Согласитесь, в наши рыночные дни это совершенно не лезет ни в какие ворота.

Я пришел на одну из его публичных лекций и познакомился с Николаем Борисовым. Он президент самарской фирмы "Автоград", один из пионеров российской альтернативной экономики, имеет в Беларуси много родственников и принял решение перебраться в Минск вместе со всем багажом — капиталами, связями, опытом. Начал осваиваться на новом месте с лекций в ассоциации женщин, потому что считает свои выступления в некотором роде разведкой. Аудитория чрезвычайно восприимчива к новым идеям и людям, не терпит фальши, не скрывает эмоций. В общем очень благодарная аудитория...

Мы разговаривали долго, потому что даже торопящемуся журналисту трудно оторваться от собеседника, который мыслит столь неординарно, а главное — каждый теоретический посыл немедленно иллюстрирует столь ярким примером, что поневоле чувствуешь себя участником какого-то события, пусть происходящего и не с тобой.



Вот несколько фрагментов из беседы с Борисовым. Конечно, магнитофонная пленка не может дать полного впечатления. Но все же: "Ситуация в белорусской экономике меня удручает. Отсутствие законодательной базы сковывает развитие малого и среднего бизнеса. У меня сложилось впечатление, что многие руководители, даже в правительстве, чувствуют себя заложниками России и поэтому ведут себя соответственно, ждут, что может предложить Урал, Тюмень. Это неверно, и значит, что следует искать иные возможности. Мне известно, что Запад предлагал Беларуси кредиты, лизинг. Но к этому в Минске пока не готовы и более того — создаются препятствия. Нет также серьезных координирующих структур, и потому директора предприятий оказались в некоем вакууме — борются в одиночку. Познакомился с директором НИИ инженерных изысканий, убедился, насколько глубоки и перспективны их разработки, особенно необходимые сейчас, в кризисное время. Но этими методиками никто не интересуется. А коль так, то торжествует "теневая" экономика, каждый директор старается выплыть в одиночку, призывая в помощь все что угодно — личные связи, возможности "натурального хозяйства", но не то, что действительно необходимо — концепцию обоснованного выхода из тупика. Нужна система гибкого законодательного реагирования на возникающую ситуацию в промышленности и сельском хозяйстве. Ее, как мне показалось, пока нет..."

"Необходимо обновление инфраструктур. То, что было создано в прошлые годы, не отвечает сегодняшним условиям, а нового анализа распределения производственных отношений нет. По-прежнему действуют на глазок, по принципу — сколько нужно магазинов? И только потом думают о товарах... А ведь конкурировать должны не организационные структуры, а товары. Все "новое" базируется на прошлом опыте. Вот и в Минске, городе, по-своему замечательном, я не обнаружил структур малого бизнеса, созданного не эмпирически, а в результате серьезного анализа. По-моему, цепочки "регистрация — анализ — распределение" нет. Хотя возможности для этого есть".

"Моя мотивация — извлечение прибыли в рамках рынка и закона. Не сочтите это низменным позывом. Когда я думаю о крахе советской экономики, то прихожу к выводу, что он наступил еще и потому, что предприятиям навязывали далекие от здравого смысла показатели, а благополучие зависело не от своих рук и головы, а от "дадут" — "не дадут".

"Об инвестициях зарубежного капитала. Не надо бояться. Есть очень много здравых идей. По-моему, то, что в Беларуси сегодня законодательно нет двойного гражданства, — большой недостаток. Ведь вместе с новым интеллектом в страну всегда придут новые идеи, новые возможности и необходимые капиталы. Просто нужно открыть для инвесторов ворота настежь, а "выпускать" их через калитку".

"Сегодня работать трудно, но я устал бояться. Ведь прекрасно помню то время, когда множество светлых голов попало за решетку по обвинению... "в предпринимательстве". Какая дикость! Потом парализовали кооператоров, сейчас душат мелкий и средний бизнес. Кроме того, вся Европа интегрируется, а у нас набирает темп дезинтеграция. В Европе политические амбиции капитулировали перед капиталистическими реалиями. У нас наоборот. К добру это не приведет".

"Есть ли пути выхода из кризиса? Есть. Но цивилизованные. Валентин Павлов вместо того, чтобы бороться с инфляцией, накачал страну наличными деньгами, разрушил продовольственный рынок, а заодно нанес сокрушительный удар по формирующемуся фондовому. Хотя и тогда был выход. Но вместо того, чтобы связывать деньги распродажей ненужного государству имущества, он занялся повышением цен. Это был первый шаг к краху. Но следующий, почти смертельный удар экономике был нанесен, когда полностью "освободили" цены. И это при том, что в мире нет ни одного государства, которое в той или иной мере их бы не контролировало. В Бельгии, например, если компания собирается повысить цену на какой-то продукт, она обязана объявить о своем намерении за три месяца, чтобы соответствующие государственные органы смогли проверить, насколько это справедливо и оправдано. А у нас — поступили, как всегда, "широко" и в итоге — безумие..."

"Цель жизни? Приближать завтрашний день".

А потом глуховатым и низким голосом он читал мне свои стихи.

*“Я не заполню белый лист в познаньи,*

*Сказав, что звезды в вечном мирозданье*

*Тем ярче, чем темнее небосвод,*

*Но свет их гасит утренний восход.*

*Порой звезду звездой не назовешь.*

*На сером покрывале не найдешь*

*Пылинку — у пылинки серый цвет...”*

*Пасля таго, як выступіла “Народная газета”*

## Меры прыняў дэпутат

“... Не забывайце і пра жывых” — пад такім загалоўкам у рубрыцы “Набалелае” 23 лютага 1993 года ў нашай газеце быў надрукаваны невялічкі артыкул Надзеі Шэлег. Мінчанка вяла размову пра пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь “Аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў”. Нагадаем радкі з яе пісьма: “... пра загінуўшых трэба памятаць, але нельга забываць і жывых. І клопаты неабходна праяўляць не на словах, а на справе”. Надзея Шэлег пісала пра свайго бацьку, які і абаронца Айчыны, і інвалід вайны I групы, і пацярпеўшы ад рэпрэсій. Але, нягледзячы на ўсё гэта, ветэрану амаль што год не могуць прывезці дроў з Пухавіцкага гарпаліва. З лістапада 1989 года ён стаіць у чарзе на пакупку халадзільніка і тэлевізара.

Публікацыя была накіравана на рэагаванне ў Саўмін і трапіла ва ўпраўленне грамадскай бяспекі і абароны. Разглядаў яе намеснік начальніка гэтага ўпраўлення народны дэпутат Валерый Паўлаў, вядомы сваімі арганізацыйнымі здольнасцямі. Гэта мы да таго, што дровы ветэрану былі завезены на другі дзень пасля выхаду публікацыі ў свет. У старога дома пабывалі прадстаўнікі Міністэрства абароны. Канстанціну Яўсеевічу Шэлегу былі прапанаваны і халадзільнік, і тэлевізар. Але ён ад іх адмовіўся: інфляцыя з'ела ўсе накапленні. Праўда, намер купіць бацьку халадзільнік выказала дачка Надзея. Ёй такая магчымасць прадастаўляецца. Завезлі вайскоўцы ветэрану і прадукты харчавання.

Вось такі шчаслівы фінал у нашай гісторыі. Турбуе толькі адно: на ўсіх ветэранаў народных дэпутатаў рэспублікі не хопіць...

**Валеры ДРАЗДОЎ.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Прыехалі!..

**Пуста ў гэтыя дні ў многіх аўташколах АСТА (былога ДТСААФ).**

Каманда “Разыдзіся!” ужо не першы раз прагучала ў гэтых падраздзяленнях у Віцебскай вобласці. У Міністэрстве абароны рэспублікі складана з грашыма на падрыхтоўку армейскіх вадзіцеляў, і сотні курсантаў адпраўлены дадому ў чаканні чарговага пералічэння сродкаў са сталіцы.

Адначасова з прызыўнікамі тыднёвы неаплачваемы водпуск у які ўжо раз афармлены большасці інструктараў.

**Сцяпан СТАРАЖЫЛ.**

## Прабачце, пані старшая прыбіральшчыца...

**Хто падказаў або прафесійны нюх штурхнуў брэсцкіх зладзюгаў на тое, каб выбіць дзверы ў гэтай кватэры.**

Нажыва была немалая — 4000 долараў, 7500 марак, залаты пярсцёнак з брыльянтамі... Застаецца спадзявацца, што зладзеяў знойдуць і асудзяць, нягледзячы на тое, што яны адкрылі свету існаванне яшчэ адной даходнай прафесіі — гаспадыня кватэры служыць на непрыкметнай пасадзе дзяжурнай па зале Брэсцкага чыгуначнага вакзала, кіруючы брыгадай прыбіральшчыц.

**Васіль ВІКТАРОВІЧ.**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб намесніку старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і паслугах насельніцтву

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і паслугах насельніцтву ШАЎНІНА Аляксея Мікалаевіча — народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь ад Слонімскай гарадской выбарчай акругі Гродзенскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

9 красавіка 1993 г. г.Мінск. N 2275-XII

*Вопрос — ответ*

## Слово “Элтика” — слово джентльмена

*В декабре 1992 года мы подписались на акции витебской промышленно-торговой компании “Элтик”. Не пропадут ли наши деньги? Когда мы узнаем о результатах лотереи среди акционеров, о которой было объявлено?*

***Группа пенсионеров.***

*г. Новополоцк.*

Руководство “Элтика” сообщило нашему собственному корреспонденту Сергею Буткевичу, что держатели акций могут спать спокойно. В ближайшие дни начнется типографский выпуск ценных бумаг, которые будут розданы или разосланы их владельцам. Белорусское телевидение показало передачу о лотерее и ее результатах. Деньги акционеров уже “крутятся”. Они вложены в производство мебели и стиральных машин “Витьба”, первая партия которых должна быть собрана уже нынешней весной. Компания рассчитывает на достаточно высокие дивиденды, в росте которых заинтересованы штатные работники “Элтика”, также являющиеся акционерами собственной фирмы.

*Рампа*

## “Свінячае жыццё” стварылі дэбютанты

**Прэм'ера спектакля з незвычайнай назвай “Свінячае жыццё” адбылася ў Слонімскім беларускім драматычным тэатры. I артысты, і рэжысёр, і драматург, якія яго стварылі,—усе яны дэбютанты.**

Драмтэатр з вялікай радасцю дае дарогу маладым. Упершыню тут былі пастаўлены дзве камедыі маладога беларускага драматурга Уладзіміра Савуліча “Халімон камандуе парадам” і “Сабака з залатым зубам”, дзіцячая казка Уладзіміра Ягоўдзіка “Прынцэса і салдат”, рыхтуецца да пастаноўкі дзіцячая п'еска Аляксея Якімовіча “Чарадзейныя суніцы”. Тут, працуючы ў тэатры, пачаў сваю творчую дзейнасць як драматург і Уладзімір Бутрамееў.

Што датычыцца прэм'еры спектакля “Свінячае жыццё”, з якім знаёмяцца жыхары Слоніма, адразу хочацца адзначыць саму п'есу Аляксандра Богдана, студэнта-выпускніка Мінскага інстытута культуры. Гэта неардынарны твор, і яго галоўныя героі — парсюкі, ролі якіх выконваюць сам аўтар і студэнт выпускнога курса гэтага ж інстытута Васіль Сявец. У вобразах хатніх жывёл, для якіх галоўнае паесці, паспаць, зноў паесці, бачны не лепшыя людскія звычкі...

Паставіў спектакль “Свінячае жыццё” аднакурснік выканаўцаў галоўных роляў Валерый Бандарук. Ён жа выконвае і ролю гаспадара.

Дарэчы, ужо сёлета выпускнікі Мінскага інстытута культуры А.Богдан, В.Бандарук, В.Сявец прыедуць сюды на працу. Застаецца толькі пажадаць маладым поспехаў на ніве беларускага тэатральнага адраджэння.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

*Инициатива*

## Решетом воду не вычерпать

Десятки различных общественных организаций и фондов республики в той или иной мере занимаются оздоровлением чернобыльских детей. Но их разрозненные усилия зачастую малоэффективны. Помощи ждут сотни тысяч пострадавших, а за рубеж на отдых могут попасть немногие. Нужно развивать оздоровительную базу у себя в Беларуси. Возможности для этого есть. Однако до последнего времени дальше разговоров дело не шло.

Создавая в прошлом году Белорусскую ассоциацию международного труда молодежи (АТМ), ее инициаторы решили вплотную заняться чернобыльским проектом. Участие в строительстве жилья для переселенцев, дозиметрический контроль, организация оздоровления детей и т.д. — всего не перечесть. Но мы быстро поняли, что решетом воду не вычерпать, нужно объединить все силы.

При поддержке Комитета по делам молодежи республики создан Координационный совет по организации помощи детям, который начал руководить чернобыльским проектом. К нему присоединились фонд Сороса (США), Молодежный форум (Европейский совет) и другие объединения, частные инициативы некоторых стран. Уверены, что сторонников единения будет гораздо больше.

Предполагается уже нынешним летом открыть в Беларуси первые лагеря с участием зарубежных и своих волонтеров, экоцентр в “Зубренке”... Предложений поступает немало, главное — не упустить возможность организовать отдых для наибольшего количества детей.

Итак, начало положено. Участники международного семинара “Чернобыльский проект”, представители различных зарубежных фондов призывают всех заинтересованных поддержать инициативу по организации оздоровления детей в чистых районах Беларуси, чтобы не тратить валюту, а использовать ее на более неотложные нужды чернобыльцев. Адрес Координационного совета: **220030, Минск, ул. К.Маркса, 40. Контактные телефоны: 29-30-01, 27-04-95, факс 29-35-72.**

**Сергей СОБОЛЕВ, член Координационного совета.**

*26 красавіка — дзень смутку і надзеі*





Выжывем? Выжывем!

**Фота Васіля ЗЯНЬКО і Сяргея БРУШКО.**

# Чарнобыльская Радаўніца: схілім галовы...

**Віктар ЗАГРАДСКІ**

Сем гадоў таму чорныя хмары Чарнобыля навіслі над Беларуссю... Не было больш жудаснай трагедыі з часоў мінулай вайны. Кожнага пятага беларуса напаткала вялікае гора. Спаганена чацвёртая частка роднай зямлі... За што нам такое пакаранне?

“Не пазней чым праз год апошні жыхар пакіне небяспечную зону”, — запэўніў у інтэрв'ю аўтару гэтых радкоў напярэдадні шостых угодкаў катастрофы адзін з кіраўнікоў Дзяржкамчарнобыля рэспублікі. Лёгка даваць абяцанні... Колькі яшчэ сем'яў пакутуе, чакае сваёй чаргі на адсяленне?! Няма добрых лекаў, чыстых прадуктаў харчавання, нават спачування гаротным людзям... Жыві як хочаш. Калі выжывеш...

У якой краіне магчыма трымаць людзей за калючым дротам? Чаму за нейкія льготы людзі згаджаюцца глытаць радыяцыйны пыл? Гэта жудасна: у зоне ўсё больш самасёлаў. Яны кажуць — лепш паміраць на радзіме, чым пакутаваць, бадзяцца ў пошуках прытулку...

Чарнобыль многіх “сагрэў”... Адны зарабілі сабе танны палітычны капітал, другія спекулююць жыллём для перасяленцаў, трэція дамагаюцца льгот... Трагедыя сумлення страшней за радыяцыю. Яна раз'ела душы чыноўнікаў, якія маніпулююць законамі, здзекуюцца з пацярпелых.

Хацеў даведацца, колькі ўжо ахвяр у Чарнобыля, але нідзе не знайшоў статыстыкі. Дзяржаве не патрэбна такая праўда. Але ж мы ведаем, што тысячы ліквідатараў валяюцца ў шпіталях, адцягваючы апошні дзень, а дзяцей няспынна мучаць хваробы, якіх раней не было...

... Самотныя даты стаяць побач: сёмыя ўгодкі чарнобыльскай катастрофы і Радаўніца. Схілім галовы перад бязвіннымі ахвярамі, памянём сваіх продкаў. Запалім свечкі на могілках ля зруйнаваных пасля катастрофы вёсак...

